# На зямной радзіме Езуса

У кожнага чалавека ёсць свая радзіма. Для кагосьці гэта — Літва, Польшча, Расія, Конга, Аргенціна, Іспанія, Італія, Індыя... Наша радзіма — Беларусь.

Езус таксама меў сваю зямную радзіму. Мы называем яе Святой Зямлёй. Гэтая зямля святая, бо яе абраў сам Бог для сустрэчы з людзьмі. У Бібліі мы чытаем, як Бог размаўляў з Абрагамам, Майсеем, з прарокамі. Потым Бог паслаў на зямлю свайго Сына, і ад таго часу кожны чалавек можа размаўляць з Ім.

Калі Езус жыў на зямлі, Ён сустракаўся з рознымі людзьмі, многіх аздараўляў, усім даваў парады, як трэба жыць, каб займець жыццё не толькі на зямлі, але і ў Нябеснай Айчыне. Людзі і цяпер часта прыгадваюць, што і дзе казаў Езус. Калі Езус быў у Ерузалеме, Ён казаў... Калі Ён падымаўся на Аліўную гару, Ён гаварыў сваім вучням... У Капернаўме Езус таксама прамаўляў... На беразе Галілейскага мора Ён вучыў натоўпы...

Гэтай вясною, у часе Вялікага посту, мне разам з групай пілігрымаў пашчасціла пабыць цэлы тыдзень у Святой Зямлі. Там я таксама шмат гаварыў з Езусам. Гэтая размова працягваецца і цяпер.

*Ці блізка, Пане, ці вельмі далёка,*
*Ты з намі заўсёды,*
*любоў сваю сееш*
*у нашыя сем'і, у кожны дом,*
*нават самы далёкі, за акіянам.*
*Ты ўсюды, дзе мы размаўляем*
*з Табою*
*і просім Тваёй бацькоўскай апекі.*

*Маленькі рыцар*
*Беззаганнай*



# Там, дзе Ён нарадзіўся

Усе мы ведаем, што Езус нарадзіўся ў Бэтлееме. Цяпер над тым гротам узвышаецца прыгожая базыліка Нараджэння Пана. Уваход у яе вельмі нізкі, яго называюць дзвярыма пакоры, бо кожны чалавек, уваходзячы ў гэтую святыню, нізка схіляецца. Даўней жа такі ўваход быў зручны для абароны святыні ад ворагаў.

А побач з базылікай знаходзіцца касцёл святой Кацярыны, у лёхах якога ёсць невялікая келля святога Гераніма. У Бэтлееме святы Геранім заснаваў кляштар, жыў і працаваў у ім цэлых 35 гадоў. Ён пераклаў Святое Пісанне на лацінскую мову дзеля таго, каб яно разышлося па ўсім свеце. Гэта была галоўная справа ягонага жыцця, і ёй святы Геранім прысвяціў ажно 24 гады. У гэтага святога была слава найлепшага знаўцы Святога Пісання, таму, калі мы чагосьці не разумеем у Бібліі, можам маліцца да яго:

*Святы Гераніме,*
*мудрасцю слынны!*
*Навучы разумець*
*словы Кнігі святой,*
*што змяшчае ў сабе наказы*
*самога Бога для кожнага з нас,*
*а значыць і для мяне.*
*Амэн.*



«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 2 (56)/2012 г.
Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ,
220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.
Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,
мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.
Адрас для лістоў: а/с 101, 220002 г. Мінск-2.
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 3371.
Падпісана да друку 26.04.2012 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.



Ксёндз Ян Твардоўскі

# Вандроўкі Езуса

— *Езу, дзе Ты жывеш?*
— *Ідзіце і ўбачыце.*

Пабеглі басаногія пастушкі спрасоння, бо іх анёл разбудзіў, нібы будзільнік.

Убачылі, дзе і як Ён жыве.

Жыў у стайні пад найбліжэйшай з найдалейшых зорак, з дзіркай у даху, ды толькі той дзіравы дах меў цалкам прыстойны выгляд, бо праз яго відаць неба. Усё як на абразку. І ўсе яны разам. Найлепшая Матуля, Юзаф, бяздомныя жывёлы ды пенсіянеры — вол з аслом.

У вакенцы — Святая Зямля.

Аднак Езус увесь час падарожнічаў. Першае жытло — і адразу ж першае падарожжа.

Скончылася таўханіна ў Бэтлееме, бо людзі, якія з’ехаліся на перапіс насельніцтва, раз’ехаліся.

Пан Езус са стайні змог перайсці ў бедны бэтлеемскі дамок. Мабыць, найбольш незадаволеныя гэтым былі вол і асёл. Вол увогуле не любіць рухацца, бо прывязваецца да месца, асёл жа панёсся быў штомоцы ў горад, але меў цяжкасці з рэгістрацыяй, дык і вярнуўся панылы ў стайню.



— *Езу, дзе Ты жывеш?*
— *Ідзіце і ўбачыце.*

Прыехалі вучоныя каралі з Усходу, знайшлі хлопчыка пасля першага Яго падарожжа, укленчылі перад Ім на падлозе і не маглі ад здзіўлення выціснуць з сябе слова. Дзівіліся, што можна быць шчаслівым у адным невялічкім пакойчыку з гэткім маленькім вакенцам, што праз яго відаць толькі адна зорка.

А тым часам — новае падарожжа. І ў дадатак уначы, у цемры, праз зялёную мяжу. Меў Ён там новае жытло. Егіпецкі дамок, вада з Нілу ў жбанку, егіпецкая чорная муха на шыбе. Гарачая раса ў гародчыку. Як жа далёка трэба было Яму жыць, калі нават па Святой Зямлі тупацеў тады цар Ірад, нібы тое аднавокае страшыдла.

Ды вось і зноў вандроўка.

— *Езу, дзе Ты жывеш?*
— *Ідзіце і ўбачыце.*

Прыехаў у Назарэт. Бачылі Яго тут. Рос як на дражджах.

Мабыць, думалі, што затрымаецца ў назарэцкім дамку.

Аднак Ён зноў вандраваў, на гэты



раз проста ў пустэльню, каб быць там бяздомным.

Можа, спаў на камені, які не стаў для Яго хлебам.

Калі д'ябал перастаў Яго спакушаць, прыйшлі анёлы і служылі Яму, але дому для Яго не збудавалі..

— *Езу, дзе Ты жывеш?*

— *Ідзіце і ўбачыце*.

Птушкі маюць гнёзды, лісы — норы, а Езус не мае дзе коўдрай накрыцца.

Меў яшчэ адно жытло, але спаць не меў часу, бо начамі прыходзіў да Яго Нікадэм і распытваў пра Божыя справы.

Пастаянна жыў дзесьці ў новым месцы, каб жыць усюды.

— *Езу, дзе Ты жывеш?*

— *Ідзіце і ўбачыце*.

— Жыву ў табе, толькі ты часам Мяне не бачыш, бо думаеш пра сябе.

— Жыву ў добрых і дрэнных людзях. У добрых — усміхаюся, як некалі пры Матулі, у дрэнных — няволяць Мяне і б'юць.

— Жыву ў Касцёле, не толькі ў святыні з вежаю, у мураванай з прыгожымі вокнамі, але і ў вялікай сям'і чалавецтва, у якой усе адно аднаму патрэбныя, каб ісці разам у неба.

Калі б хтосьці жыў не з людзьмі, то

не меў бы каму ўсміхацца,

не меў бы каго цалаваць,

не меў бы каму паказваць свае малюнкі ў сшытку,

не меў бы каму тэлефанаваць,

Нікому не была б патрэбная ягоная хвароба, не быў бы ён патрэбны лекару, стаматолагу, аптэкару, настаўніку.

— Жыву ў Касцёле, у вялікай чалавечай сям'і, дзе ўсе ведаюць, што павінны быць разам і што ніхто не жыве дзякуючы сабе і толькі для сябе.

— Няхай кожны заўсёды пытаецца, дзе Я жыву.







# Конкурс па перапісванні Новага Запавету

1 чэрвеня 2012 г. у парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне адбудзецца **II Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці**. Да ўдзелу ў святце запрашаюцца дзеці з дыяцэзіі і з усёй Беларусі.

Галоўнай мэтай імпрэзы з’яўляецца лепшае пазнанне нашага Нябеснага Айца і вучэння Езуса Хрыста. Удзельнікі даведаюцца, як стаць сапраўдным апосталам Хрыста і дзяліцца з іншымі сваёй верай. Дэвіз сустрэчы — **«Хачу быць апосталам Езуса Хрыста!»** У праграме святкавання: малітва, святая Імша пад кіраўніцтвам біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, гульні, забавы, конкурсы, тэатральныя пастаноўкі, сюрпрызы.

Каб дапамагчы дзецям адкрываць і пазнаваць Хрыста, абвяшчаецца **першы конкурс**, заснаваны на **перапісванні Новага Запавету**. Звяртаемся з просьбай да духоўных і свецкіх катэхетаў стварыць магчымасць паўдзельнічаць у гэтым конкурсе дзецям на лекцыях па рэлігіі і тлумачыць ім пры гэтым сэнс Святога Пісання.

**Перапісваць тэкст можна на любой мове, пасля чаго яго трэба даслаць на адрас: 230025, Гродна, вул. К. Маркса, 4, з надпісам на канверце: II Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці.** Да ўдзелу ў конкурсе, як і ва ўсім мерапрыемстве, запрашаюцца дзеці з усёй Беларусі. Усіх удзельнікаў чакае сюрпрыз. Перапісаны тэкст будзе прынесены да алтара падчас урачыстай святой Імшы 1 чэрвеня ў Гродне.

**Каб атрымаць фрагмент тэксту для ўдзелу ў конкурсе і пачуць падрабязную інфармацыю пра II Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці, неабходна напісаць на электронную пошту — sakralna@op.pl**

**або пазваніць па тэлефонах:**

**+375 29 784 05 72**

**+375 44 460 61 40**

*кс. Юрый Марціновіч,*
*адказны за II Дыяцэзіяльны*
*дзень дзіцяці.*









# Я — зайздросніца

Я разумею, што зайздросціць іншым — грэх. Але не магу даць рады гэтаму недахопу, бо я зайздрошчу тым дзецям, чые бацькі зарабляюць шмат грошай. Некаторыя мае аднакласнікі вельмі прыгожа апранаюцца, часта хваляцца, што яны ходзяць у тэатры, ездзяць у дэльфінарый, а адна дзяўчынка ездзіла аднойчы на выхадныя ў Парыж!

Мае ж мама з татам зарабляюць мала. Яны заўсёды лічаць грошы, і я пастаянна чую: «Мы не можам сабе гэтага дазволіць!» Мы ніколі з імі не ездзілі за мяжу. Калі я вырасту, то абавязкова буду зарабляць шмат грошай!

*Аксана, 10 гадоў.*





## Ці шчаслівыя яны?

Найлепш, Аксана, калі чалавек мае столькі грошай, каб не думаць пра іх. Аднак на свеце жыве шмат людзей, якія штодня лічаць грошы і кажуць: «Не, мы гэтага не можам сабе дазволіць!» Больш за тое, многія ўвогуле галадаюць. Ці абавязкова яны гультаі? Ды не ж! Проста так склаліся для іх многія абставіны. А шмат людзей не могуць сабе дазволіць не толькі паехаць кудысьці, але і проста пайсці ў госці, бо няма прыгожага адзення, няма за што купіць падарунак...

Але як думаеш, Аксана, ці заўсёды багатыя людзі шчаслівыя? Часам яны і па замежжах ездзяць колькі заўгодна, і па гасцях ходзяць, і апранаюцца прыгожа, але не маюць чагосьці вельмі важнага... Як думаеш, чаго?

Жадаю табе, Аксана, заўсёды моцна любіць сваіх бацькоў, разумець іх і дапамагаць ім.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



*Госць часопіса — Гэлена Грамыка*

# РАДАСНА ЯМУ СПЯВАЦЬ



*— Гэлена, я ведаю, што яшчэ нядаўна ты была нашым пастаянным чытачом. Не сумна табе цяпер, дарослай, без «Маленькага рыцара Беззаганнай»?*

— Была?! Маё сяброўства з «Маленькім рыцарам Беззаганнай» не спынілася, хоць я ўжо і дарослая. Я і цяпер з радасцю яго набываю. Нават мая маці часам бярэ ў мяне яго пачытаць, бо калі табе нешта па-сапраўднаму падабаецца, гэтая сімпатыя з цягам часу не праходзіць.

*— А якія часопісы ты чытаеш цяпер?*

— Розныя. Апроч «Маленькага рыцара...» чытаю таксама «Дыялог», «Ave Maria», шмат электронных СМІ.



*— У цябе такая сур'ёзная прафесія — эканаміст. Не занадта цяжкая?*

— Калі працу любіш, то часам хочацца, каб нешта было складанае. Гэта ж вельмі цікава, калі мучаешся, вырашаючы розныя пытанні, а пасля бачыш добры вынік і атрымліваеш асалоду. Я, шчыра кажучы, не адразу палюбіла сваю працу, а толькі пасля таго, як пачала яе вельмі старанна выконваць.

*— Ведаю, што ты нядаўна пілігрымавала ў Святую Зямлю. Калі б ты была мастаком, якімі б фарбамі ты малявала яе?*

— Ерузалем я малявала б прыгожым залацістым колерам, дадала б шэра- зялёнага колеру аліўкавых дрэваў і над усім гэтым — блакітнае неба. А маю любімую Галілею я малявала б ярка-жоўтай, чырвонай, фіялетавай — там столькі ўсяго цвіце! Ды яшчэ там былі б зялёныя горы, блакітнае неба,

што адлюстроўваецца ў сінім моры, і, пэўна ж, мае любімыя аранжавыя мандарынкі.

*— Радасная карціна атрымалася. Скажы, ты даведалася там штосьці новае пра Бога?*

— Безумоўна! Для мяне было важна зрабіць такое адкрыццё: калі чалавек пускае Бога ў свае праблемы, нявырашаныя пытанні, то прыходзіць Езус Уваскрослы, які ўжо перамог смерць ды ўсялякае зло ў гэтым свеце, і дае свой спакой. Ты яшчэ не ведаеш, адкуль, чаму прыйшло такое перакананне, але ты перакананы ўжо, што ўсё ў цябе будзе добра, бо за табой стаіць не чалавек, а сам Бог, якому вельмі важна, каб ты была шчаслівая.

*— Што найбольш запамяталася табе на Святой Зямлі?*

— Храм Грабніцы Панскай. Мы якраз былі ў часе Вялікага посту, калі асабліва перажываем муку Пана... А тут стаіш каля грабніцы, а яна... пустая! І цябе напаўняе такая вялікая радасць, што Яго ж тут няма! Ён уваскрос! Проста немагчыма апісаць словамі гэтыя пачуцці. Таксама з радасцю ўспамінаю гару Табор, Галілею... Вось ужо дзе сапраўды цякуць мёд і малако!

*— Гэлена, як думаеш: табе захочацца калісьці паехаць на Святую Зямлю зноў?*

— Мне ўжо хочацца вярнуцца туды! Я была б рада яшчэ нават і не раз наведаць тыя святыя мясціны... Але калі нават гэтага і не здарыцца, то дзякую Богу, што я была там!..



*— Ведаю, што ты прыгожа спяваеш. Там ты таксама спявала?*

— На Святой Зямлі мне асабліва хацелася спяваць пра тое, што ў Ізраіля ёсць толькі адзін Бог і няма іншага. Таксама вельмі хацелася спяваць пра Уваскрашэнне Езуса, хоць яшчэ і быў час Вялікага посту. Разумела гэта, вядома, але часам немагчыма было ўтрымацца — сэрца само спявала.

*— Жадаю табе, Гэлена, заўсёды прыгожа й радасна спяваць для Пана Бога! Спадзяюся, наша сяброўства будзе працягвацца.*

— Дзякуй. А я жадаю ўсім чытачам «Маленькага рыцара Беззаганнай» заўсёды заставацца вернымі сябрамі Езуса і Марыі, бо няма нічога больш каштоўнага за гэтае сяброўства.

*Гутарыў Яська Запытальнік.*



# Цудоўная краіна Ізраіль



**Пабыць на Святой Зямлі — вялікая радасць для кожнага хрысціяніна. І кожны, для каго гэтая мара збудзецца, прагне падзяліцца потым сваімі ўражаннямі, успамінамі, сваёй радасцю з іншымі. Вось і навапалачане Стась Ермачэнка і Янка Лабунько таксама дзеляцца з намі сваёй радасцю.**

Мне разам з бабуляй і дзядулем пашчасціла ў гэтым годзе пабыць на тым месцы, дзе нарадзіўся Езус Хрыстус — у Бэтлееме. Цяпер над тым гротам ёсць вялікая святыня Божага Нараджэння. Мы былі там, дзе срэбнай зоркай пазначана месца Яго нараджэння. І нам пашчасціла там нават паспяваць на нашай роднай мове.



А праз некалькі дзён мы ўсёй групай ішлі Крыжовым шляхам на Галготу, па той самай дарозе, па якой і Яго вялі жаўнеры. У Храме Грабніцы Пана мы былі на самой Галгоце. Увогуле, у той паездцы мы ўсе шмат маліліся, кожны дзень чыталі Евангелле, удзельнічалі ў святой Імшы. Маліліся за сваіх родных, за тых, хто застаўся ў Беларусі.

А яшчэ я пакупаўся ў Мёртвым моры! У ім вада такая салёная, што ажно трымае чалавека на сабе. А ў апошні дзень наша пілігрымская група была ўжо на рацэ Ярдан. Там зусім іншая вада — лёгкая. У Ярдане мы аднавілі прысягу нашага хросту і ўсе акуна元іся ў ваду. Я таксама — тры разы.



Было страшнавата, але мяне моцна трымаў дзядуля.

Кожны дзень гэтай паездкі мне вельмі спадабаўся і запамятаўся. Усе гэтыя дні не падобныя паміж сабою, бо на кожным месцы мы чулі новую гісторыю з жыцця Езуса.

*Янка Лабунько, 9 гадоў.*

Гэтай вясной мы з мамай лёталі ў Ізраіль, туды, дзе нарадзіўся, жыў, памёр і ўваскрос Езус Хрыстус. Мы былі ў вялікіх і малых гарадах. Дарэчы, іх гарады не падобныя да нашых, і людзі там жывуць таксама інакш.

Надвор'е было нашмат цяплейшае, чым у нашай Беларусі. Ужо тады, у сярэдзіне сакавіка, там цвіло шмат-шмат кветак. Мы бачылі пустыню, горы, рэкі і моры. Такая невялікая краіна, а так шмат у ёй усяго!..

Нам пашанцавала: мы пабылі ў пустыні, падымаліся на фанікулёры ў старажытную крэпасць цара Ірада — ажно дух захоплівала ад вышыні! Потым купаліся ў Мёртвым моры і акуналіся ў Ярдане. Вада была, праўда, халодная, але мяне гэта не спыніла.

Вядома, усе мы ў нашай групе шмат маліліся. Мы прасілі ў Бога міру і спакою для ўсёй Зямлі, а таксама маліліся і за нашу Беларусь.

Цяпер я расказваю сваім сябрам пра тое, што бачыў, як купаўся ў Мёртвым моры. Яно такое незвычайнае! Самае салёнае і знаходзіцца на самай нізкай кропцы зямнога шару.

А ў горадзе Тыберыядзе мы любаваліся прыгожым каляровым музычным фантанам. Гэта такая прыгажосць і радасць, што, здаецца, глядзеў бы і глядзеў!

Сапраўды, Ізраіль — цудоўная краіна. Няхай Бог дае ўсім людзям хоць раз пабыць там.

*Стась Ермачэнка, 7 гадоў.*





# Дзякуй табе, Галілея!

*«Тады Езус сказаў ім: «Не бойцеся. Ідзіце, паведаміце братам Маім, каб ішлі ў Галілею, там Мяне ўбачаць»* (Мц 28,10).



Ніколі раней, да таго, як мне пашчасціла пабыць на Святой Зямлі, я не думала, чаму Уваскрослы Езус пажадаў аб'явіцца сваім вучням менавіта ў Галілеі. А цяпер разумею. Бо Ён моцна любіў гэтую частку Святой Зямлі.

Тут, у Галілеі, прайшло Яго дзяцінства. У Назарэце Ён жыў пасля вяртання Святой Сям'і з Егіпта. Па вуліцах Назарэта і ў ягоных ваколіцах Ён гуляў з сябрамі альбо бегаў адзін і любаваўся багатымі на ўраджай квяцістымі далінамі ды гарамі, што патаналі ў шчодрай зеляніне.

Пазней, ужо дарослы, Ён прыходзіў у Капернаўм і навучаў там народ у сінагозе. Яшчэ і цяпер тут засталіся сівыя камяні — рэшткі той святыні. Напэўна, яны памята-

юць Яго, і таму так хочацца да іх дакрануцца...

У Капернаўме ў тыя часы жыў зборшчык падаткаў Левій, які, сустрэўшыся з Хрыстом, стаў Яго вучнем, прыняў імя Мацвей і пазней напісаў адно з Евангелляў. У Капернаўме Езус аздаравіў цешчу Пятра ад гарачкі. Цяпер над месцам, дзе быў той дамок, узвышаецца сучасная святыня.

Кана Галілейская. Усе хрысціяне ведаюць, што тут Езус учыніў свой першы цуд — ператварыў ваду ў віно на вяселлі. Сучасныя турысты ахвотна купляюць віно ў Кане. Кажуць, смачнае... А яшчэ ў Кане хрысціянскія сем'і аднаўляюць свае сужэнскія прысягі.




Галілейскае мора (а ў часы Старога Запавету Кэннэрэт) — сапраўдны цуд! Хоць бы і таму, што яго не назавеш бурным, яно здаецца лагодным-лагодным. Але часам нечспадзяваныя вятры прарываюцца да яго праз навакольныя горы і па-



дымаюць раптоўныя моцныя штормы! Адну з гэткіх бураў Езус супакоіў (Мц 8, 23–27). Калі мы апынуліся на моры, яно было спакойнае, і нам нават пашчасціла пакатацца па ім на кацеры.



Пілігрымы любяць гэтае мора, збіраюць на ягоным беразе камяньчыкі, ракавінкі і вязуць дахаты напамінкі пра Галілею.

На беразе мора стаіць невялічкі касцёл, які часта наведваюць пілігрымы, бо на гэтым месцы ўваскрослы Езус даручыў святому Пятру пасвіць Яго авечак, гэта значыць — нас. А непадалёк ёсць адзін з найпрыгажэйшых евангельскіх помнікаў, прысвечаны таму моманту, калі Пётр кінуўся ў ваду і пабег да ўваскрослага Езуса. Бо моцна любіў Яго.

І высозная гара Табор, на якой Езус перамяніўся перад сваім вучнямі, таксама знаходзіцца ў Галілеі! На яе вяршыні цяпер узвышаецца прыгожы касцёл. А калі выйдзеш з яго, то ажно дух захоплівае ад блакітных даляў унізе!



...Нарэшце я зразумела сакрэт Галілеі! Уся яна прасякнута любоўю і прыгажосцю. Часам здаецца — незямной. І таму яна мне прыгадваецца цяпер як самае цудоўнае месца на зямлі, дзе мне пашчасціла быць.

Дзякуй табе, Галілея!

*Ірына Жарнасек*



Кожнае сяброўства тады сапраўднае, калі сябры любяць адно аднаго. Дарэчы, і хатнія, і дзікія жывёлы тонка адчуваюць людзей, якія ім жадаюць дабра і зусім не хочуць крыўдзіць.



Гэтыя здымкі — лепшае таму пацвярджэнне. На кароткі час сустрэліся Стасік Ермачэнка з ослікам, які прагульваўся па вуліцах старога Ерузалема са сваім гаспадаром. А прыязнасць адразу ўзнікла, і гэтаму зусім не запярэчыў ослікаў гаспадар. На шчасце, у мамы быў у гэтую хвіліну фотаапарат, які і зафіксаваў радасны момант.

# І мы ў гэтым свеце



Надзея Мяжэвіч яшчэ нядаўна была чытачом нашага часопіса. Цяпер жа яна адказала на покліч Пана Бога і вырашыла служыць Яму ў Кангрэгацыі сясцёр служабнічак Найсвяцейшай Панны Марыі. Аднойчы, праходзячы ў Татрах, яна сустрэла гэтую сімпатычную, ласкавую авечку. І момант іх цёплай сустрэчы таксама зафіксаваў фотаапарат.

А з вамі, сябры, здараліся падобныя прыгожыя моманты? І, можа, таксама ў кагосьці з блізкіх быў фотаапарат? Дасылайце гэтыя здымкі ў рэдакцыю, каб стаць героямі старонкі «Наш свет прыроды і мы ў гэтым свеце». Чакаем!

# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

**Хрыстус сказаў:**
**«Я — святло свету.**
**Хто ідзе за Мною,**
**той не будзе хадзіць у цемры,**
**але будзе мець святло жыцця»**
(Ян 8, 12).






Хрысціяне,
калі моляцца,
часта запальваюць свечку.

Чырвоная лямпка заўсёды свеціцца каля табэрнакулюма, у якім знаходзіцца Найсвяцейшы Сакрамэнт. Таму вернікі заўсёды з пашанаю кленчаць перад табэрнакулюмам.







Набажэнства
Вялікай суботы
распачынаецца
асвячэннем агню.



Самая вялікая свечка
ў касцёле — пасхал —
запальваецца на Вялікдзень.
На пасхале змешчаны літары
А (альфа) і Ω (амега),
гэта азначае, што Хрыстус —
пачатак і завяршэнне ўсяго,
што існуе на зямлі.

На пачатку святой Імшы
на алтары запальваюць свечкі.



# Езус ідзе па вадзе

**Евангелле паводле святога Мацвея**
*Раздзел 14, вершы 23–31*

Езус падняўся на гару памаліцца асобна. Калі настаў вечар, заставаўся там адзін.

Тым часам човен ужо адплыў шмат стадыяў ад берага. І кідалі яго хвалі, бо вецер быў супраціўны. У чацвёртую ж варту ночы Ён пайшоў да іх, ідучы па моры. Калі ж вучні ўбачылі, як Ён ідзе па моры, спалохаліся і казалі: «Гэта прывід». І ад страху закрычалі. Але Езус адразу загаварыў з імі і сказаў: **«Будзьце адважнымі, гэта Я; не бойцеся!»** Пётр сказаў Яму ў адказ: «Пане, калі гэта Ты, загадай мне ісці да Цябе па вадзе». Ён жа сказаў: **«Ідзі!»** Выйшаўшы з чоўна, Пётр пачаў ісці па вадзе і падышоў да Езуса. Але, адчуўшы моцны вецер, спалохаўся і, пачаўшы тануць, закрычаў: «Пане, ратуй мяне!» Езус адразу ж працягнуў руку, схапіў яго і сказаў: **«Малаверны, чаму засумняваўся ты?»**





# Не адводзьце вачэй ад Яго

Хіба магчыма гэта — хадзіць па вадзе, нібы па зямлі? Аказваецца, магчыма, бо для Бога няма нічога немагчымага. Ён сам уваскрасае пасля смерці і ўваскрашае іншых людзей. Ён суцішае буры і загадвае вятрам мяняць свой кірунак.

А тым, хто ў яго верыць, таксама вельмі многае пад сілу. Вось і святы Пётр таксама пайшоў па вадзе, хоць ніколі раней гэтага не рабіў. Пайшоў. Ды толькі варта было яму адвесці свае вочы ад Езуса, ён адразу пачаў тануць...

Не адводзьма ж сваіх вачэй ад Яго!





# ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Сябры! Я рады загадаць вам новыя загадкі з Евангелля. Тым больш, што вы іх таксама любіце адгадваць. Толькі не засмучайцеся, калі памыляецеся. Мяне, прызнацца, таксама не засмучаюць няправільныя адказы. Проста я веру, што калі чалавек рэгулярна адкрывае Евангелле і чытае яго, ён робіцца з кожным днём лепшым. Так было і са мной, і з многімі маімі сябрамі. Дык наперад, сябры, з новымі сіламі!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

- Назавіце імёны жанчын, якія пасля пахавання Езуса ўбачылі Яго пустую магілу. У якім Евангеллі вы прачыталі пра гэта? (Падказка: глядзі апошнія раздзелы кожнага Евангелля.)
- Хто першы ўбачыў Уваскрослага Езуса? (Ян, 20, 11–16)
- Езус моцна любіў усіх сваіх вучняў. І ўсё ж Ягоным самым любімым вучнем быў ...
- Чаму апостала Тамаша часам называюць няверуючым? А вы як лічаце, ці можна яго гэтак называць?
- У які момант вучні распазналі Уваскрослага Езуса па дарозе ў Эмаус? (Лк 24, 13–35)
- «Пасі авечак Маіх» — загадаў Уваскрослы Езус апосталу Пятру. Якія «авечкі» былі ў Езуса? (Ян, 21, 15–17)
- Каго цяпер называюць Наступнікам апостала Пятра? Як яго імя?
- Калі б вам пашчасціла сустрэць Уваскрослага Езуса, што вы сказалі б Яму?



*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»,** *змешчаныя ў № 1 за 2012 г.*

Пра Езуса Хрыста; грамнічныя свечкі сімвалізуюць святло Хрыста; бо сярод дароў, прынесеных мудрацамі Езусу ў Бэтлеем, было і золата; бо мудрацы прыйшлі да Езуса з далёкіх краінаў; Ярдан; у Ерузалеме на свята Пасхі; святы Юзаф быў цесляром.

Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць: **Аляксандр Шэршань** з в. Янкавічы, што на Пастаўшчыне, сёстры **Іра** і **Таня Вышадка** з г.п. Падсвілле, што на Глыбоччыне, **Мікалай Тамковіч** з Вілейкі і **Оскар Усціновіч** з пас. Свір, што на Мядзельшчыне.



# Вясновая крыжаванка

**1.** Святы, чый дзень адзначаецца 16 мая.
**2.** З яго нараджаецца матылёк.
**3.** Ранняй вясной на рэках пачынаецца ... .
**4.** Час пасеву зернавых.
**5.** Набажэнства ў гонар Маці Божай.
**6.** Хата буслоў.
**7.** Ларэтанская ... .
**8.** Вада, што прабілася з-пад зямлі.






*Калі правільна адгадаеце крыжаванку, то з літараў у чырвоных клетках даведаецеся, хто ажыўляе, падтрымлівае і асвячае наша жыццё.*

Адну памылку зрабіла **Маргарыта Ясэпкіна** з Вілейкі, яна таксама атрымае прыз.

Чакаем вашых новых лістоў! Нагадваем, што іх можна дасылаць таксама і электроннай поштай на e-mail: media@catholic.by.

*Рэдакцыя*

Адказ на крыжаванку
**«Прыгадай і адгадай»**:
Ахвяраванне Пана

## Смяшынкі-весялінкі

**Знаўца геаграфіі**

Настаўніца пытае ў Міколкі:

— Якая рака даўжэйшая, Дзвіна ці Місісіпі?

— Місісіпі.

— Добра. А наколькі яна даўжэйшая?

— На дзве літары.

**Любімы прадмет**

Мама запытала ў Яна:

— Янка, які прадмет у школе табе найбольш падабаецца?

— Званок.

# Прыгоды ксяндзаЛявона

## Не толькі Лазар

— Ну паспеў, ох, дзякуй Табе, Божа, паспеў!

Ксёндз Лявон шаргануў па ўзмакрэлым твары рукавом, размінуўся з апошнім чалавекам, які выходзіў з магілы Лазара, і, шчаслівы, зрабіў колькі крокаў уніз па лесвіцы, прысланіўся да сцяны, аддыхаўся. Вельмі хацеў паглядзець у Бэтаніі магілу Лазара, якога ўваскрасіў Езус. Група, з якой ксёндз Лявон пілігрымаваў па Святой Зямлі, сёння заўпарцілася, і большасць вырашыла пагуляць па горадзе, бо, маўляў, што яны, магілаў не бачылі? А ксёндз Лявон не мог з гэтым змірыцца. Дык і няхай сабе — хоць адзін, але паспеў! Бо пабыць у Бэтаніі і не пабачыць магілы Лазара!..

Ксёндз Лявон крутнуў галавой і... нічога не ўбачыў. Працёр вочы — цемра. Што за ліха? Прыслухаўся — ні гуку... Навобмацак, трымаючыся шурпатай сцяны, зрабіў некалькі крокаў — усё тое ж, цемра!

— Гэй, — ціха, бо нядобра ж нібы крычаць у магіле, азваўся ён да невядома каго. Адказам яму была ціша. Але ж... Але ж... толькі што тут былі людзі... Куды ўсе падзеліся?

— Гэ-эй... — трохі гучней паўтарыў ксёндз Лявон. Ціша.

І тут ён прыгадаў, што ўсе людзі падымаліся з магілы... вонкі! Ну так, а ён, шчаслівы, што паспеў, праціскаўся, размінаўся з імі на лесвіцы і спускаўся ўсё ніжэй ды ніжэй... Але ж і магілы ў іх тут былі — цэлыя падземныя лёхі! І потым... потым пагасла святло... Ды яны яго, напэўна, выключылі! Ну так, ужо вечар, і тыя, наверсе, на ноч выключылі святло! І, вядома ж, замкнулі ўжо дзверы!

...Раніцай першая група пілігрымаў асцярожна спускалася ў магілу Лазара. Тыя, што ішлі наперадзе, раптам закрычалі ды падаліся назад, на ногі тых, што былі ззаду. Насустрач ім з магілы сунуўся чалавек ды цёр заспаныя вочы! Усчаўся крык, а праз нейкі час, калі ксёндз Лявон так-сяк растлумачыў ім, што да чаго, грымнуў смех. Невядома, ці смяяліся калі так гучна ў магіле Лазара. Калі ж ксёндз Лявон падняўся нарэшце на паверхню, нейкі малы паднёс яму кветку — з уваскрасеннем!

— Ну а што, беларускі Лявон таксама вось... выйшаў жывы з магілы! — пажартаваў ксёндз Лявон.

Пазней на папрокі пілігрымаў-землякоў, што ён цэлую ноч не адказваў ім на мабільнік, ксёндз Лявон хітравата ўсміхнуўся: «Ну а хто гэта з магілы калі тэлефанаваў? Там жа сувязі няма!»

*Прыгоду запісала І. Ж.*





# Галерэйка



«Цудоўны ўлоў»,
Валерыя Рогач, г.п. Астравец.



«Эмаўс», Аліна Вайштаровіч,
г.п. Астравец.



«Аўтапартрэт»,
Агата Новікава, г. Мінск.



«На моры», Руслан Русаковіч,
г.п. Астравец.



«Звеставанне»,
Улад Залецкі, г. Орша.



«Хто слухае слова Маё...»,
Валерыя Гасюль, г. Барысаў.

